Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА

# Газета для вас

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

13 верасня 1997 года
СУБОТА
№ 49
Наш індэкс 63834

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Ямал-Баранавічы-Берлін

**БАРАНАВІЧЫ.** Як вядома, прыродны газ паўвострава Ямал стварыў базу надзейнага забеспячэння каштоўнай сыравінай і палівам як Расію, так і еўрапейскіх спажыўцоў. Гэта своеасаблівая газавая хваля, якая ўзняла практычна ўвесь прамысловы комплекс Еўропы, уключаючы Беларусь, Украіну і Прыбалтыку. Згодна з разлікамі Міжнароднага газавага саюза спажыванне газу ў Еўропе вырасце да 2010 года на 40-70 працэнтаў і яго пастаўкі павялічацца да 300 мільярдаў кубаметраў у год.

Каб даставіць такі аб'ём ад радовішча заходнееўрапейскім спажыўцам, неабходна пракласці двухніткавую сістэму газаправода працягласцю каля 12 тысяч кіламетраў. За гэтую работу ўзялася сумесная беларуска-германская фірма „Еўрагаз". Падземную магістраль яна пракладвае рэкорднымі тэмпамі. Да субпадраду прыцягнуты дзесяткі нашых прадпрыемстваў.

Беларускі ўчастак газаправода – дзве ніткі труб даўжынёй 575 кіламетраў кожная. Паміж Слонімам і Нясвіжам – а гэта 107 кіламетраў – мантаж вядуць баранавіцкія брыгады будаўнікоў. Начальнік участка А. Аскальдовіч арганізаваў цэлы інтэрнацыянальны гарадок газабудаўнікоў у Баранавічах, умела кааpдынуе некалькімі механізаванымі комплексамі.

У верасні пачалася рэкультывацыя зямляў на ўчастку паміж Слонімам і Нясвіжам.

Дзеля аб'ектыўнасці трэба сказаць, што поспех дасягаецца дзякуючы чыста нямецкай сістэме дакладнай арганізацыі працы і беларускай працавітасці.

### Маці, надзеньце ордэны

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Указ „Аб узнагароджанні мнагадзетных маці ордэнам Маці", падпісаны прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь, абрадаваў тых жанчын, што нарадзілі і выхоўваюць пяць і больш дзяцей. Напэўна, добры настрой з'явіцца ў работніцы Целяханскай лыжнай фабрыкі Надзеі Канстанцінаўны Абрамчук, палявода калгаса „Рассвет" Людмілы Віктараўны Арцюх і цялятніцы гэтай жа гаспадаркі Людмілы Міхайлаўны Арцюх, калі прачытаюць у важным дакуменце свае імёны.

Маральны стымул з'явіўся, а матэрыяльны? Пра яго неяк мала гаварыць, калі гэта датычыцца простых людзей. Пры сацыялізме так і павінна быць: жыццё без дастатку, затое ордэнаў – процьма.

### Калектывізацыя па-новаму

**БАРАНАВІЧЫ.** У аграфірме „Зара" мінулай зімой раздалі вяскоўцам амаль паўтары сотні коней. Ад грамадскага кармоў яны ледзьве не паздыхалі, а пад наглядам людзей сталі сытыя і дужыя. Коні зарабляюць сабе на авёс перавозкай грузаў, апрацоўкай сотак і нялікіх калгасных дзялак.

Аграфірма пайшла далей – сёлета раздала ў хлявы сялян 25 кароў. Старшыня гаспадаркі Л. Ф. Кавалёў лічыць, што такое новаўвядзенне забяспечыць жанчын гарантаванай працай, ды і надоі пабольшаюць.

Дарэчы, раздалі кароў, якіх трэба было выбракоўваць. Калгасніцы змаглі падняць жывёлін на ногі. Аграфірма бярэ сабе толькі трэцюю частку здадзенага малака, астатняе ідзе на зарплату жанчынам. Каля 600-700 тысяч рублёў.



● СУМНАЯ ДАТА

### Хай кроў больш не пральецца

*БЯРОЗА. 12 верасня 1995 года ў небе над горадам адбылася трагедыя – загінулі амерыканскія паветраплавальнікі Джон Джэрвіс і Алан Дрэнкел.*

*Была створана ўрадавая камісія, якая высвятляла прычыны гэтай трагедыі. І толькі нядаўна сталі вядомы яе вынікі. Вывад адназначны: не трэба было ляцець над Бярозай, не паведамiўшы загадзя, што ідуць міжнародныя спаборніцтвы паветраплавальнікаў. А ваенныя атрымалі загад: знішчыць цэль.*

*Праз год на месцы падзення паветранага шара паявіўся своеасаблівы помнік. Гэта валун. На ім напісана: **12.09.95 г., крыж і слова „Прабачце" (ніжні здымак)**. Валун размешчаны ў густым сасонніку ў 150-200 метрах ад чыгункі Брэст-Масква. Хто яго ўстанавіў, невядома.*

*А зусім нядаўна тут у дачным пасёлку каля вёскі Мармажава ўстаноўлена мармуровая пліта з двума надпісамі на рускай і англійскай мовах: „Тут загінулі амерыканскія паветраплавальнікі Джон Джэрвіс і Алан Дрэнкел" **(верхні здымак)**.*

*Стары, які жыве побач, расказаў, што прыехалі неяк трое маладых людзей з Бярозы, вынеслі пліту з машыны і ўстанавілі яе так, каб бачна была праезджым. Калі дзед запытаўся, хто яны, адзін з іх адказаў: „Я – падпалкоўнік, а гэта – мае сябры". Хто гэта на самой справе, застаецца толькі гадаць. Але тое, што даніну памяці бязвінна пайшоўшым з жыцця людзям нарэшце аддалі ваенныя, натуральна, уражвае.*

*Няхай у нашы дні ніяк – ні па загаду, ні па дурасці начальнікаў, ні з-за трагічнай выпадковасці – не пральецца людская кроў.*

***Фота А. ГАНЧУКА.***




### Па-дзелавому

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Гомельскі леспрамгас прыслаў у Целяханскі лясгас 32 чалавекі на расчыстку лясных завалаў пасля смерчу. Акрамя страт, гамяльчане тут нічога не набудуць. Лес выдатны, ды за столькі кіламетраў яго не павязеш. Дамовіліся з АТ „Івацэвічдрэў", што яно забярэ нарыхтаваную імі драўніну, а ўзамен дасць фанерную сыравіну для аб'яднання „Гомельдрэў".



● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## АД СУБОТЫ ДА СУБОТЫ

### НЯСВІЖ ПЕРАДАЎ ЭСТАФЕТУ ПІНСКУ

У чацвёрты раз у нашай краіне адзначаўся Дзень беларускага пісьменства і друку. Асноўныя мерапрыемствы праходзілі ў Нясвіжы. На наступны год свята прыйдзе на Брэстчыну – Нясвіж перадаў эстафету Пінску.

### ЯШЧЭ АДНА СВАБОДНАЯ ЭКАНАМІЧНАЯ ЗОНА

На пасяджэнні Мінскага гарвыканкама прынята рашэнне аб стварэнні ў беларускай сталіцы свабоднай эканамічнай зоны. Плануецца, што СЭЗ „Мінск" складзе восем асобных тэрыторый агульнай плошчай прыкладна ў паўтары тысячы гектараў.

### МАЛАДЗЁЖНАЕ ЖЫЛЛЁ МОЖА ПАЧАКАЦЬ

З 800 мільярдаў рублёў крэдытных сродкаў, якія павінны быць выдзелены ў гэтым годзе для фінансавання будаўніцтва маладзёжнага жылля, пакуль паступіла толькі 426 мільярдаў.

### БЕЛАРУСКІ ФОНД СОРАСА АБ'ЯВІЎ АБ СВАІМ ЗАКРЫЦЦІ

Кіраўніцтва Беларускага фонду Сораса і інстытута „Адкрытае грамадства" аб'явілі аб закрыцці Фонду Сораса ў Беларусі, спаслаўшыся на тое, што да такога рашэння іх прывялі дзеянні беларускіх уладаў.

Як паведаміў дырэктар вашынгтонскага офіса інстытута „Адкрытае грамадства" Джон Фокс, яго перагаворы з міністрам замежных спраў Беларусі Іванам Антановічам аб адмене штрафных санкцый у адносінах да БФС і размарожванне яго рахунку ні да чаго не прывялі. З гэтай нагоды была распаўсюджана заява самога Джорджа Сораса , у якой ён заяўляе: „Фактычна Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у блоку посткамуністычных дзяржаў, дзе наш фонд зачынены". Ён адвяргае абвінавачванні беларускіх уладаў у тым, што БФС меў дачыненне да апазіцыйнай палітычнай дзейнасці, і зазначае:„Хоць БФС сёння зачыняе свае дзверы, але не зачыняе іх з трэскам перад беларускім народам. Я спадзяюся знайсці спосабы падтрымаць тых людзей у Беларусі, чыя дзейнасць садзейнічае развіццю адкрытага грамадства".

Кіраўнікі Беларускага фонду Сораса выказалі шкадаванне ў сувязі з гэтай падзеяй, заявіўшы, што з 1993 года фондам было зрасходавана звыш 13 млн. долараў на падтрымку праектаў у галіне адукацыі, навукі, культуры, медыцыны, мас-медыя і развіцця сеткі „Інтэрнет". Толькі летась было выдаткавана 5,7 млн. долараў і, як зазначыў Сяргей Леўшуноў, кіраўнік назіральнага савета БФС, гэта лічба мела тэндэнцыю да росту. За кошт БФС летась былі зроблены аперацыі на сэрцы 33 дзецям, якіх у нас лічылі безнадзейнымі. Па меркаванню выконваючага абавязкі дырэктара БФС Алеся Анціпенкі, беларуская моладзь пазбавілася соцень і тысяч магчымасцей для кантактаў са сваімі аднагодкамі за мяжой, яны страцілі магчымасці і час, „бо ўсё роўна мы вернемся на шлях дэмакратычных пераўтварэнняў у нашай краіне".

Цяпер кіраўніцтва БФС чакае ўзбуджэння крымінальнай справы па фактах утойвання падаткаў, аб чым яму было заяўлена прадстаўнікамі падатковага камітэта, а таксама канфіскацыі маёмасці, каб пакрыць штраф у 3 мільёны долараў.

### БЫК ЗАБІЎ ПАСТУХА

Ахвярай не на жарт разгневанага быка стаў пастух калгаса імя Куйбышава Аршанскага раёна. Правадыра статка вывеў са звычайна спакойнага стану радавы выпадак.

Праз праём пашкоджанай электраагароджы каровы пачалі разыходзіцца. Не паспеў пастух загнаць іх назад, як на яго накінуўся раз'юшаны бык. Адхінуцца ад рагоў не ўдалося...

Быка расстралялі і спалілі, апасаючыся шаленства жывёлы. Ідзе разбор, які, магчыма, дапаможа прадухіліць такія здарэнні ў будучым.

**(Па старонках рэспубліканскіх газет).**

● БИБЛИЮ ЧИТАЕМ ВМЕСТЕ

# Бесплодная смоковница

**(ЕВАНГЕЛИЕ ОТ ЛУКИ, гл. 13)**

**(Продолжение. Начало в №№ 3–47)**

Пилат Понтийский был правителем Иудеи и наместником Кесаря (правителя Римской Империи). Выполняя указания императора, он стремился сломить религиозный дух евреев, заставляя их поклоняться императору как Богу. Иудеи никогда не смогли бы этого сделать, так как поклонение кому-либо или чему-либо вместо Бога было страшным грехом и каралось смертью. Приходя в бешенство от упрямства израильтян, Пилат пошел на вопиющее преступление. Ворвавшись в храм во время жертвоприношения, он смешал изрубленные тела людей с мясом и кровью жертвенных животных. Иудеи же не могли объяснить, почему Бог допустил подобное зло посреди святого храма. Им осталось только предположить, что погибшие были большими грешниками.

Вторая история, рассказанная Иисусу, повествует о гибели восемнадцати человек, убитых обрушившейся башней святого города Иерусалима. Иудеи так же считали несчастных более грешными, раз суд Божий покарал их таким необычным возмездием.

Иисус через притчу о смоковнице и историю об исцелённой в субботу женщине иначе раскрывает причину гибели людей в вышеизложенных событиях. Он не считал их более греховными всех остальных евреев. Как и бесплодная смоковница была бесполезным, хотя и шумящим обильной листвой деревом, так и религиозные иудеи, шумя религиозными праздниками и жертвоприношениями, не представляли для Бога никакой ценности. Они отвергали в своём упрямстве Иисуса Христа, за праздниками и обрядами не видя живого примера святой жизни Господа. Их интересовала не святая, благочестивая, богобоязненная жизнь, а выполнение обрядов. Заблудившиеся люди не приносили плода жизни и гибли, не осознавая действительной причины. Но больная (восемнадцать лет) женщина нарушила весь уклад обыденной жизни законников. Она послушалась Иисуса и пришла к нему за исцелением в субботу, что по закону священников делать было нельзя. Иисус освободил её от болезни. Не в обрядах и законах, а в послушании Иисусу свобода и счастье. Непослушание Господу, отвержение Его воли – причина всех бед и страданий людей. Не стоит считать кого-то более грешным. Участь всех людей земли определяется их послушанием Иисусу, а не человеческими религиозными законами.

Наблюдая за учением Иисуса, многие люди подмечали, что далеко не все следуют за ним. В ст. 18-19 Господь рассказывает о горчичном зерне. Оно очень маленьких размеров, но вырастая становится деревом. Так Царство, о котором учил Иисус. Сегодня, спустя 2000 лет после Его земной жизни, все люди земли узнали Его учение. Но когда придёт Само Царство Небесное, то превзойдет все мыслимые ожидания даже глубоко верующих христиан. В тоже время притча о закваске, которая заквасила тесто, объясняет нам и о грехе. Грех поражает все человечество. Только в Иисусе можно спастись от его разрушающей силы. Как же можно спастись?

Ст. 25-28 указывают на узкие ворота. Будучи религиозными, люди позволякт себе безнаказанно грешить, считая, что какие-то религиозные действия спасают их от наказания. Иконка в кабине пьяного водителя не спасёт от аварии, а крестик на шее вора не спасёт его от тюрьмы. Оправдывая свои греховные действия, люди не ищут узких ворот, идя широкой дорогой вседозволенности прямиком в ад. Сам Иисус говорит, что поздно будет молить Господа о милости, когда Он придёт судить. „Не знаю вас" – так ответит Он непослушным людям. „Плач и скрежет зубов" ожидает беспечных грешников.

Ст. 29 ободряет и вдохновляет нас. Не только иудеев, но и нас желает спасти Иисус. Ведь Он Бог всех людей. Сегодня слепые люди делают „своих" богов,разделяя их по национальному, языковому и другим признакам. Иисус–Бог для всех. И люди придут к нему из всех уголков земли,„востока и запада, севера и юга",чтобы навсегда быть с Ним в Его Царстве.

Ст. 31-35. Династия Иродов царствовала в Иудее незаконно. Великий Иерусалимский храм, строившийся более сорока лет, видел за свою историю множество великолепных празднеств. Построен же храм был именно в пору царствования иродов. Только вообразите себе. Убивать младенцев, убить самого Христа и в то же время построить грандиозный храм и поклоняться в нём , приносить жертвы Богу!? Невероятно, но факт. Иисус назвал Ирода лисицей. Внешний лоск скрывал хитрую звериную сущность. Ирод не желал считать себя грешником, ведь он приносил царские жертвы в храме, построенном его предками.

„Се оставляется ваш дом пуст" – так „оценил" Господь ложное богопоклонение. Ему не нужна шумиха бесплодных людей. Бог желает видеть плод нашей богопослушной жизни.

Друзья! Пока ещё есть время до прихода Иисуса Христа, у нас есть возможность раскаяться в хитрой жизни самообмана. Читайте Библию, живите по Божиему слову, выращивая плод любви. И узкие врата Небесного Царства Иисуса Христа непременно откроются вашему просветлённому чистому взору.

**С любовью к вам, священнослужитель Ивацевичской Церкви „Рождества Христова" КОНСТАНТИН.**

**(Продолжение следует).**

● СТОП-КАДР



*Адгукніся, восень-чараўніца,*
*не хавайся ў шолаху лясоў.*

*Ты стамілася, і час спыніцца:*
*адпачыць на коўдры верасоў.*

*Адпачыць на жоўтым пакрывале,*
*сон прысніць сярод агнёў бяроз.*

*І адчуць, як свята адгулялі*
*павуцінавыя нізкі слёз.*

**Фотаэцюд А. ГАНЧУКА.**

● КРЫМІНАЛ

# Удар у сэрца

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Гэтая трагедыя адбылася ў пасёлку Зялёны Бор. У час сваркі ў кватэры грамадзяніна Ю. быў забіты 44-гадовы мясцовы жыхар М. М. Кавалёў. Нож злачынцы трапіў у самае сэрца. У наўмысным забойстве падазраецца грамадзянка А. Узбуджана крымінальная справа. Вядзецца следства.

**К. ДЗЯМЧУК.**

● СЛУЖБА 01

# Якая ж бітва без агню?

Народная мудрасць сведчыць, што не той хлеб, што ў полі, а той, што ўжо ў свірне. Справядлівасць гэтай прымаўкі ў адпаведным сэнсе можна перанесці і на надзейную захаванасць грубых кармоў, бо сапраўды нарыхтаваць тое ж сена бывае складана па розных прычынах, а вось захаваць – складаней удвая. У сёлетнім жніўні назапашаныя кармы гарэлі часцей, чым калісьці раней. Полымя скварна знішчала і сена, і салому, зводзячы на нішто карпатлівую, нялёгкую працу вяскоўцаў. Гарэлі кармы на калгасных палетках і каля фермаў, на сядзібах сялян. Прычыны ж узнікнення такіх пажараў розныя. У вёсцы Жытлін, напрыклад, згарэла 30 тон сціртаванага сена, якое было складзена непадалёк ад фермы. Гэта – вынік гульні з агнём трох дзяўчынак– вясковых сясцёр Светы і Веры Вярняевых і мінчанкі Каці Майсан, якая гасцявала ў сваякоў.

Даволі цікава разгорталіся падзеі, што папярэднічалі пажару ў в. Любішчыцы. Тут згарэла 20 тон засціртаванай саломы і ў дабавак – трактарны прычэп, на якім падвозілі сюды салому. Па дарозе да сцірты, мінаючыся з сустрэчным трактарам, на складзеную ў прычэпе салому заляцелі іскры з выхлапной трубы. Салома ўзялася гарэць, аднак трактарыст гэтага не заўважыў і ехаў далей. Убачыў агонь толькі тады, калі ўжо ўшчыльную пад'ехаў да сцірты саломы, але было ўжо позна рабіць нешта дзейснае для тушэння пажару. Ды і полымя паспела да таго часу перакінуцца на сцірту. Агульныя матэрыяльныя страты ад гэтага пажару склалі ажно 10 мільёнаў рублёў.

Дарэчы, столькі ж саломы згарэла ў вёсцы Рэчкі. Звыклая неасцярожнасць, а дакладней злачынная абыякавасць пры карыстанні крыніцамі агню пацягнула за сабою пажар у Сярадаве і Пагор'і. У першым выпадку агонь знішчыў 15 тон сена і 10 тон саломы ў вучэбнай гаспадарцы Івацэвіцкага ПТВ-162. У другім жа выпадку ў дым і попел ператварылася 20 тон сена і будынак сенасховішча памерам 36х11 м. Усяго ж, улічваючы не толькі грубыя кармы, што згарэлі ў гаспадарках раёна і ў прыватных вясковых гаспадароў, „чырвоны певень" знішчыў 120 тон сена і саломы. Варта ўспомніць, з якімі цяжкасцямі былі нарыхтаваныя гэтыя кармы. Як ні шкада, але захаваць, зберагчы назапашанае мы яшчэ, мабыць, не ўмеем.

**В. МОЛАШ,**
**ст. супрацоўнік ЦНППБ АВПС-6 г. Івацэвічы і Івацэвіцкага раёна.**

● РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

**Цэны на рынках нашага рэгіёна ў мінулыя выхадныя (у тысячах руб. за адзін кілаграм) былі наступныя:**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза |
|---|---|---|---|
| Свініна | 65–70 | 75–85 | 65–80 |
| Сала салёнае | 55 | 40–65 | 65 |
| Селядцы | 38 | 38 | 46 |
| Алей (1 л) | 44 | 45 | 48–53 |
| Цукар | 21 | 21 | 22 |
| Яйкі (1 дзесятак) | 23–25 | 20–24 | 25–26 |
| Рыс | 19 | 20–21 | 23 |
| Грэцкія крупы | 16 | 20–21 | 23 |
| Макаронныя вырабы | 18 | 19.500 | 24–25 |
| Мука, вышэйшы гатунак | 16.500 | 15.500 | 17 |
| Масла сялянскае | 75 | 85–90 | 70–75 |
| Малако (3 л) | 14–15 | 20 | 15 |
| Тварог | 16–17 | 17–20 | 20 |
| Памідоры | 18–25 | 20–30 | 25–30 |
| Агуркі | 6–7 | 4–9 | 7 |
| Капуста | 8 | 3–8 | 8–10 |
| Цыбуля рэпчатая | 15 | 12–22 | 13 |
| Яблыкі | 5–10 | 5–15 | 5–10 |
| Грушы | 5–10 | 5–20 | 5–10 |
| Слівы | 15 | 8–20 | 15 |
| Вінаград | 55 | 50 | 55 |
| Бананы | 25 | 24–26 | 30 |
| Апельсіны | 40 | 38 | 40 |
| Лімоны | 50 | 50 | 50 |
| Персікі | 10 (1 шт) | 55 | 12 (1 шт) |
| Салодкі перац | 25–35 | 45–50 | 23–25 |



*ПАДЗЯКА*

*Выказваем вялікую ўдзячнасць сябрам, суседзям і знаёмым – усім, хто адгукнуўся на наша гора і падзяліў у гэты журботны для нас час горыч незваротнай страты, маральна падтрымаў, дапамог пахаваць дарагога і любага чалавека – маці і бабулю РУСАК Марыю Францаўну.*

*Нізкі паклон вам, добрыя людзі!*

***Сям'я Л. М. РУСАКА.***



Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 11 верасня ў 14.00.

Заснавальнікі: У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.



*Тыраж 1.200 экз.*
*Заказ № 2104.*